*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 29 (616) 6 ЖНІЎНЯ 2003 г.

## Саракавіны па Васілю Быкаву

31 ліпеня на Ўсходніх могілках Менска каля магілы Васіля Быкава сабралася некалькі соцень чалавек каб развітацца з душою Вялікага сына Беларусі, якая паводле хрысціянскіх дагматаў павінна адлятаць у гэты дзень у іншы свет.

Цяжка сказаць, як там сапраўды выглядае справа з душою, а вось што памяць пра Васіля Быкава нікуды не адлятае і што яго любоў да Беларусі застаецца ў сэрцах мільёнаў беларусаў, гаварылі ўсе тыя, хто змог выказацца, у тым ліку і старшыня ТБМ Алег Трусаў.



***Памяці В. Быкава***

*Прарок застаўся між людзьмі –*
*Душа ж навекі адляцела,*
*Жальбу не выкажаш слязьмі,*
*Што Беларусь асірацела.*

*Хто заклікаў устаць з калень,*
*Навек спачыў у дамавіне...*
*Ґабам не трэба перамен,*
*Ды марна Слова не загіне!*

*Яно наперад павядзе*
*За пакаленнем пакаленне,*
*І ў Беларускай Грамадзе*
*Абудзіць Годнасць і Сумленне!*
*25.06.2003 г.*
*Валеры Барташэвіч, г. Менск.*

У гэты ж дзень адбылася жалобная імша за Васіля Быкава па ўніяцкаму абраду ў Чырвоным касцёле Менска, так любімым пісьменнікам, і памінкі ў Доме літаратара.

***Спакой яго душы на нябёсах і вечная памяць на зямлі!***

## Міністэрства юстыцыі зноў звярнула ўвагу на ТБМ

Паважаныя сябры! Вы добра памятаеце пра тыя папярэджанні, якія ТБМ атрымаў з боку Міністэрства юстыцыі Беларусі ў канцы мінулага і пачатку гэтага году, а таксама пра судовую справу ў Вярхоўным Судзе Беларусі, калі ТБМ хацела аспрэчыць першае папярэджанне. У рэшце рэшт Міністэрства само яго скасавала і нас пэўны час не турбавала.

Аднак, 8 ліпеня мы зноў атрымалі запыт з вышэйзгаданага ведамства, прычым тады, калі ўсе сябры Сакратарыяту ТБМ знаходзяцца ў адпачынку. На працягу 10 дзён я падрыхтаваў адказ, які цікава будзе прачытаць усім сябрам ТБМ. Таму мы друкуем і запыт Мінюста і адказ на яго.

Таксама прашу тых кіраўнікоў нашых рэгіянальных структураў, якія яшчэ не даслалі ў сядзібу ТБМ апошнія спісы сваіх сяброў (стан на 1 ліпеня 2003) паспяшацца з гэтым, бо некаторыя спісы не абнаўляліся з 1998-1999 гадоў.

Не выключана, што са жніўня-верасня Міністэрства юстыцыі пачне праверку нашых рэгіянальных арганізацый і мы павінны быць да яе гатовыя загадзя.

**Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**
Менск 25 ліпеня 2003 г.

02.07.2003
№ 06-10\00234

**Рада Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**
**вул. Румянцава, 13,**
**220005, г. Мінск**

### Аб прадстаўленні інфармацыі

У адпаведнасці з арт. 25 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскідх аб'яднаннях" прапануем да 25 ліпеня 2003 года прадставіць у Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь наступную інфармацыю аб дзейнасці аб'яднання:

1.Звесткі аб колькасці членаў аб'яднання, а таксама аб наяўнасці арганізацыйных структур па прапанаванай форме (гл. дадатак на адваротнай старонцы ліста);
2. Звесткі аб членах выбарных органаў;
3. Дакумент, які пацвярджае наяўнасць юрыдычнага адраса арганізацыі;
4. Узоры пячаткі, штампа, бланкаў;
5. Звесткі аб мерапрыемствах, якія праводзіліся (праводзяцца) арганізацыяй, або ў якіх арганізацыя прымала ўдзел;
6. Звесткі аб здзяйсненні аб'яднаннем вытворча-гаспадарчай, камерцыйнай дзейнасці, а таксама звесткі аб юрыдычных асобах, заснавальнікам якіх аб'яднанне з'яўляецца;
7. Наяўнасць ліцэнзій;
8. Іншая інфармацыя, якую арганізацыя жадае паведаміць.

Інфармацыя павінна быць падпісана кіраўніком арганізацыі і кіраўніком яе кантрольна-рэвізійнага органа.

Дадаткова нагадваем, што, калі аб'яднанне мае свае афіцыйныя геральдычныя сімвалы (флаг, эмблема, нагрудны знак), 14 жніўня 2003 г. мінае тэрмін, вызначаны пунктам 6 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 07.08.2002 № 441, згодна якому неабходна прыняць меры па ўнясенні іх у адпаведным парадку ў Дзяржаўны геральдычны рэгістр Рэспублікі Беларусь.

**Начальнік Упраўлення грамадскіх аб'яднанняў – М. М. Сухінін.**

*(Адказ ТБМ на гэты запыт чытайце на ст. 3.)*

## І Л Л Я

***По ўсёй Беларусі ідзе мэтанакіраванае і планамернае адраджэнне народных традыцый і святаў. Сёння нікога не здзівіш святкаваннем Купалля. А вось у вёсцы Сейлавічы Нясвіжскага раёна ўжо другі год падрад спраўляюць Іллю. Паводле тутэйшых жыхароў ініцыятыва адраджэння гэтага свята належыць загадчыцы Сейлавіцкага клуба Марыне Навоша.***



**Набажэнства ў гонар прарока Іллі ля крыжа ў пачатку Сейлавіч адпраўляе айцец Алег.**

Свята па зямному раскладу павінна было пачацца ў 16.00. Па нябеснаму ж за паўгадзіны да пачатку падышлі хмары і тры разы прагрукатаў гром. За дзесяць хвілін да пачатку на 20 хвілін спусціўся цёплы, летні яшчэ, дождж і раз'яснілася. Прырода як бы нагадала што ў дахрысціянскія часы гэтае свята прысвячалася Перуну. Ды і вобраз Іллі ў народнай міфалогіі цалкам паўтарае вобразу Перуна. Праўда, айцец Алег і дзеці з праваслаўнага лагера "Святая Русь" падчас набажэнства каля крыжа ў пачатку вёскі рабілі націск на хрысціянскую сутнасць Іллі.



**"Люблю наш край, старонку гэту..." - першая песня свята ў выкананні Наташы Ванагель.**

У Сейлавічах, ды і не толькі, у старыя часы святкавання Іллі было цесна звязана з зажынкамі. Таму ў свецкай частцы фэсту, якую ладзілі самадзейныя арты сты з Сейлавіч, Андрушоў і Быхаўшчыны, шмат увагі ўдзялялася менавіта жніўной тэматыцы. Быў тут і першы сноп, і каравай з нова га ўраджаю, і жніўныя песні. І хоць сёння для пачатку жніва ніхто Іллі не чакае малітва да прарока ніколі лішняй не бывае.



**Падчас свята.**

Свецкая частка свята на 80 адсоткаў была беларускамоўнай, хаця жніўную тэматыку можна разві ваць значна шырэй.

Наступным народным святам у Сейлавічах павінна стаць Зельна 15 жніўня.

***Яраслаў Грынкевіч.***





# Што ты робіш для беларускай мовы?

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

***Тамара, працуе ў навучальнай установе***

Адказ на пытанне "Што я раблю для беларускае мовы?" нагадвае нейкую справаздачу. Але як можна рабіць справаздачу аб тым, што ты любіш? Таму магу толькі сведчыць пра тое, што люблю, не акцэнтуючы ўвагі на тым, за што люблю і што раблю.

Па сваім характары я чалавек асцярожны і не магу раскрывацца ў асяродзі незнаёмых і малазнаёмых людзей. Шчырай і адкрытай я магу быць толькі са сваімі аднадумцамі, напрыклад, у сваім беларускамоўным асяродку, у сваёй царкве. З чужымі людзьмі я вельмі асцярожная і не раскрываюся, таму размаўляю з чужымі, галоўным чынам, па-расейску. Але... Але заўсёды ўжываючы беларускія сказы, прымаўкі, ці проста асобныя словы. І ўжо ў адпаведнасці з тым, якая была рэакцыя на гэтыя закіды, я вызначаю пабудову адносінаў з гэтым чалавекам. Вельмі радасна вітаю, калі чалавек станоўча адрэагаваў на беларускія словы, ці сказы. Калі суразмоўца паставіўся абыякава, то я і не закранаю спецыяльна гэтага пытання. Ну, хай сабе і так... Адкрыта варожых адносінаў да беларускай мовы я не сустракала. Абыякавасць – так, а варожасці – не. Збольшага людзі добра рэагуюць, і мяне гэта суцяшае. Каля свайго працоўнага стала я звычайна кладу якую-небудзь беларускамоўную газету, кшталту "Нашага слова" або "Літаратуры і мастацтва". Гэтыя сігналы нібы сведчаць пра мяне і мае густы, урэшце, пра тое, што ёсць такая літаратура і вось яна каля мяне ляжыць. А каля люстэрка ў мяне вісіць значак Таварыства беларускай мовы. Людзі, якія да мяне падыходзяць, глядзяцца ў люстэрка і адразу ж бачаць гэты значак.

На вялікі жаль, я яшчэ не валодаю ў такой ступені беларускаю мовай, як хацелася б. Буду ўдасканальваць свае веды, каб больш адкрыта і свабодна размаўляць па-беларуску.

І дома, у сям'і, мы ўсё больш карыстаемся беларускаю мовай, хаця мой муж (маці ў яго – руская) раней карыстаўся выключна расейскай мовай. Буду вучыць роднай мове ўнукаў, адразу, з маленства, як некалі дачку, для якой гэта займела ў свой час вялікае значэнне, прынесла свой плён: яна любіць родную мову, размаўляе ёю.

***Барыс, энэргетык***

Я хацеў бы распавесці пра тое, што я раблю не гэтак для мовы, як для сябе. Я хацеў бы, каб мова заўжды мне спадарожнічала, была са мною. Калі мяне прызывалі ў войска на тры гады (гэта было ў 1958 годзе) мне пашанцавала – я трапіў у частку, дзе былі ўсе хлопцы прызваныя з Беларусі, толькі некаторыя сяржанты былі з іншых месцаў СССР. Мы вырашылі з гэтае нагоды зрабіць фотамантаж і ўсе надпісы выканалі па-беларуску. Трэба сказаць, салдаты карысталіся беларускаю мовай, але яна была незразумелай сяржантам. З гэтым звязаны такі выпадак: мой сябра зрабіў надпісы на тумбачках па-беларуску: "Адказны за тумбачку такі-та". Дык пашыхтавалі частку і абвясцілі яму пакаранне, бо не зразумелі, што "адказны" і "ответственный" – гэта адно і тое ж, а зразумелі так, што ён "отказывается" даглядаць гэтую тумбачку. Хаця нашая частка знаходзілася далёка ад родных мясцінаў – на поўначы Расеі – але я атрымліваў там беларускую прэсу: выпісваў "Чырвоную змену", ды бацька ў якасці падарунка выпісаў мне туды часопіс "Вожык". Знаходзілі паразуменне з камандзірамі, нам нават дазвалялася 1 студзеня, у дзень утварэння БССР (у 1919 годзе) вывешваць адпаведны – дзяржаўны на той час – сцяг.

На маім месцы працы – у Энэргетычным інстытуце – у часы гарбачоўскай парабудовы ўдалося дамовіцца з кіраўніцтвам, каб мне дазволілі вывешваць газету "Літаратура і мастацтва". Наша суполка Таварыства беларускай мовы зрабіла спецыяльны стэнд. Газету я купляў спачатку за ўласныя грошы, пасля пайшла насустрач адміністрацыя і нейкі час яе выпісвала, але потым вырашылі, што "ЛіМ" не зусім адпавядае пазіцыі ўладаў і прапанавалі замяніць яе на газету "Звязда". Нашая ТБМаўская суполка не пагадзілася на такую замену, тым больш, што слова "Звязда" няма ў беларускай мове. А пазней, пры паднаўленні інтэр'еру знішчылі і наш стэнд, на што я выказаў рашучы пратэст і мне было абяцана стэнд аднавіць. Але сёння ўжо такая стала гэтая газета "Літаратура і мастацтва", што не хочацца яе і вывешваць.

Размаўляю я па-беларуску толькі з дзвюма катэгорыямі людзей: са сваімі сябрамі, ці калі трапляю ў стан ворагаў беларушчыны. Што да апошніх, то непрыязнае стаўленне да беларускай мовы мне даводзілася сустракаць даволі часта. Але няхай ведаюць, што мова нашая жыве нягледзячы ні на што.

***Галіна, бухгалтарка.***

Я не маю іншых сродкаў для падтрымкі і прапаганды беларускай мовы, як толькі размаўляць ёю ўсюды. Дзе б я ні была: у трабейбусе, у трамваі, у доктара, на працы, калі выпадае, часта заводжу гаворку пра нашу мову. У нашым выпадку, калі дзяржава беларускай мове, мякка кажучы, не спрыяе, то грамадзяне мусяць усведамляць адказднасць, якая кладзецца на іх, і ўсяляк падтрымліваць мову, найперш – паўсюдным карыстаннем ёю. У тым доме, дзе я жыву, усе ўжо прывыклі да таго, што я размаўляю толькі па-беларуску. Часам, праўда, даводзіцца сустракаць непаразуменне: "А чаму гэта Вы гаворыце па-беларуску? Можа, Вы настаўніца, ці бібліятэкарка, або сябра Народнага фронту"? На гэта я адказваю: "Проста я размаўляю роднаю мовай, а вось Вы – чужой".

***Святлана, выкладчыца музыкі***

На пачатку 90-ых гадоў я стала сябрам Таварыства беларускай мовы, каб актыўна дапамагаць адраджэнню і пашырэнню роднае мовы сваёй працай і грашыма. Але не буду тут спыняцца на той сістэмнай працы, якую выконвала ўвесь гэты час як сябра згаданай грамадскай арганізацыі. Хацелася б заакцэнтаваць увагу на тых магчымасцях, якія мае кожны з нас як прыватная асоба для абароны і развіцця роднай мовы.

Першае, што можам мы, простыя людзі, зрабіць для нашай мовы – гэта размаўляць на ёй, карыстацца ёю паўсюдна, дзе гэта магчыма. Тым самым мы ратуем родную мову ад памірання, бо яна жыве ў нашых вуснах. Гэта важна яшчэ і таму, што тым самым мы разбураем створаны ў савецкія часы стэрэатып: беларуская мова вымірае, ужываецца хіба што як працоўны інструмент (дыктары, выкладчыкі, акторы), як мова мастацкай літаратуры ці фальклору (нібыта пэўны перажытак), але ў жыцці думаць і гаварыць "теперь можно уже только по-русски". Як часта мы гэта бачым: дыктар выключае мікрафон, актор ступае за кулісы, настаўнік зачыняе дзверы аўдыторыі – і з беларускай мовай на сёння пакончана. А я заўсёды думаю і размаўляю па-беларуску, лёгка і натуральна, як дыхаю. Тым самым знішчаю навязаныя нам дурныя стэрэатыпы. І людзі чуюць, што наша мова паўнавартасная, як і любая іншая. Яна годная да ўжытку, ніякая не "драўляная", можа гучаць свабодна і разняволена, калі сагрэта жывым дыханнем, надзелена ўсім багаццем інтанацыяў, усёй разнастайнасцю рытмаў і тэмпаў (на жаль, не заўсёды такой яе чуем "па тэлевізары", і прычыны тут зразумелыя).

На пачатку ж 90-ых я перайшла на выкладанне свайго прадмета па-беларуску. Тады гэта шчасліва супала: маё жаданне ды гатоўнасць – і патрэба незалежнай Беларусі ў нацыянальнай адукацыі, падтрымка дзяржавы. Наш каледж з таго часу мае статус беларускамоўнай навучальнай установы. На гэтым шляху трэба было вырашаць даволі вялікі спектар праблемаў: давялося паўдзельнічаць у складанні музычна-тэрміналагічнага слоўніка (выдадзенага ў БДПУ), рабіць шматлікія пераклады – ад розных праграм ды іншых дакументаў і да тэкстаў дзіцячых песняў, дапамагаць калегам, калі ў каго былі цяжкасці з беларускаю мовай. Выкладаючы па-беларуску, я ніколі не звярталася да навучэнцаў з пытаннем пра мову навучання, паколькі лічу, што ў гэтай сітуацыі менавіта я, а не яны, вызначаю правілы, да таго ж яны павінны былі бачыць і разумець, што пытанне гэтае прынцыповае.

У мяне былі галоўным чынам індывідуальныя заняткі грання на музычным інструменце. Навучэнцы не заўсёды былі гатовыя адказваць мне па-беларуску. Але ад мяне яны чулі толькі беларускую мову. І маглі пераканацца, што нашаю мовай можна выказаць усё без выключэння (напрыклад, аналізаваць пабудову класічнай санаты ці поліфанічнага твора ды іхні вобразны змест).

За ўсе гады працы я не памятаю выпадку, каб хтось паскардзіўся на неразуменне ці выказаў незадавальненне адносна мовы выкладання. Што да мяне, то сама я ніколі ніякіх цяжкасцяў ці нязручнасці не адчула. Хутчэй наадварот. Мне было б цяпер цяжка і нязручна выкладаць па-расейску. Лічу, што звычайна перабольшваюцца праблемы са спецыяльнай тэрміналогіяй, калі кажуць пра выкладанне па-беларуску. Найчасцей спецыяльных тэрмінаў у кожным прадмеце, якія маюць адпаведнікі ў нацыянальных мовах, не гэтак шмат – можа, 1-2 старонкі ў слупок, і, каб засвоіць іх, спатрэбіцца найболей тыдзень часу (ну, няхай два, калі ў каго праблемы з памяццю). Іншая справа – культура мовы ды слоўнікавы запас, бо тут настаўнік абавязаны паказваць узорны ўзровень. А гэта немагчыма без пастаяннага ўдасканалення, без таго, каб заўсёды гаварыць, чытаць і пісаць па-беларуску, пастаянна мець справу са слоўнікамі, падручнікамі, дапаможнікамі, лепшымі ўзорамі прыгожага пісьменства і да т. п. Мне гэта ўсё заўжды дастаўляла толькі радасць і задавальненне.

Але вельмі цяжка і балюча было бачыць адкат, развал і знішчэнне ўжо зробленага, гэтую цяперашнюю дэмаралізацыю, безыдэйнасць, безаблічнасць, абыякавасць. Балюча ўсведамляць, што твой патэнцыял так і застаўся ў значнай ступені нявыкарыстаны, а сілы і намаганні змарнаваныя.

Чым яшчэ можа дапамагчы роднай мове кожны, хто сам ёю валодае і адчувае сваю за яе адказнасць?

Лічу, што адзін з нашых галоўных абавязкаў – перадаць свае адносіны і сваё разуменне іншаму. Тут адкрываецца шырокае поле дзейнасці, і не толькі для настаўніка роднай мовы, артыста ці пісьменніка, але і для кожнага з нас. Сярод нас багата людзей, гатовых пачуць, тых, каму не хапае якраз нашага слова, нашай перакананасці, досведу, дапамогі. Важна ўбачыць такога чалавека, не прайсці ўзбоч. Часам гэта хтось з нашых блізкіх, сяброў, калегаў і г. д. Бывае, што дастаткова даць першы штуршок, каб чалавек пачаў свой рух да роднай мовы, далей ён будзе рухацца сам. А ўжо пасля і ён можа стацца пачынальнікам яшчэ нечага руху, перадасць гэтую эстафету. Асабіста я маю ўжо шмат такіх шляхоў, па якіх перамяшчаюся сама. Гэта такі працэс паступовага абуджэння. І тэарэтычна, ён павінен адбывацца па законе геаметрычнай прагрэсіі.

На завяршэнне хачу сказаць, што для кожнага патрыёта дапамога роднай мове – гэта творчасць, і тут патрэбен пошук новых шляхоў і магчымасцяў, вынаходніцтва новых метадаў, патрэбна воля, актыўнасць, смеласць, фантазія, аптымізм. Будзем дзейнічаць, і наша мова – жыцьме!

***Зьміцер, эканаміст***

Сваю падтрымку беларускай мовы сцісла фармулюю гэтак:

- шаную беларускую мову і патрабую належных адносінаў ад навакольных;

- набываю беларускае (кнігі, часопісы, газеты, кампакты, візіяфільмы);

- чытаю беларускае;

- слухаю і гляджу беларускае;

- наведваю беларускае (канцэрты, прэзентацыі кніг, сустрэчы з творцамі)

- раю іншым і дару лепшае беларускае. Дзялюся тым беларускім, што маю сам;

- кантактую. Пішу па-беларуску;

- падтрымліваю і заахвочваю любыя праяўленні зацікаўленасці беларускай мовай з боку іншых;

- імкнуся падаваць узор вуснай і пісьмовай беларускай мовы. Дзеля гэтага пастаянна дасканалю сваё валоданне ёю;

- спрыяю творчасці і навуковай працы іншых па-беларуску (добрым водгукам, ідэяй, альбо дапамогай у стварэнні належных тэхнічных умоваў).

Вядома, пададзенае вышэй не мае нічога агульнага з ізаляцыянізмам, не мае аніякага адмоўнага ўплыву на маё стаўленне да іншых моваў, валоданне імі.

У выніку, беларускамоўнае асяроддзе для мяне не праблема. Я яго сабе ствараю сам. Мая сям'я – беларускамоўная. Маю добрых сяброў, для якіх сакавітае беларускае слова – як паветра, якім дыхаеш, як вада, без якой усё сохне і чэзне.

Падчас навучання ва ўнівэрсітэце кантрольныя, курсавыя, дыпломную работы я пісаў па-беларуску. Старшыня камісіі па выпускных унівэрсітэцкіх іспытах – уплывовы ў эканамічных колах чалавек – з павагай і (як належыць) па-беларуску прымаў маю абарону дыпломнай работы – на выдатна!

Маю багатую бібліятэку беларусікі, ці не на дзве тысячы грунтоўных, вартасных і рарытэтных выданняў, сярод якіх беларускія календары пачатку дваццатага стагоддзя (у тым ліку – "Нашай Нівы"), кнігі з аўтографамі выбітных беларускіх пісьменнікаў, мастакоў, даследчыкаў, гісторыкаў, кампазітараў, факсімільныя і тэматычна беларускія выданні на розных мовах свету з самай шырокай геаграфіяй.

Сабраная мною фанатэка налічвае за дзве сотні кампактаў, касетаў, кружэлак з беларускімі песнямі і музыкай, выдаванымі ў Беларусі, Польшчы, Нямеччыне, Расеі. Амерыцы, Італіі. Сярод запісаў ёсць і песні ў выкананні Уладзіміра Караткевіча...

У нашай сітуацыі ад паслядоўна беларускамоўных людзей час патрабуе быць больш актыўнымі. Да прыкладу я імкнуся быць не проста спажыўцом нейкай інфармацыі на беларускай мове, але таксама выказваць да яе сваё стаўленне. Не саромецца напісаць ліст у тое, ці іншае выданне, уступіць у палеміку з масцітым, здавалася б аўтарам – не саромецца проста выказаць сваё меркаванне! І я пераконваюся, што вельмі многім аўтарам у беларускамоўных выданнях бракуе зваротнай сувязі з чытачамі. Таму вельмі важна выказваць сваё меркаванне, і нават, калі яно крытычнае – давоздіць да ведама аўтара артыкула. У спрэчцы, як вядома, нараджаецца ісціна. Ёсць яшчэ адна добрая прымаўка: хто не грукаецца, таму не адчыняюць. Хто не варушыцца, той не адчувае плыні жыцця. Каб мы, беларускамоўныя людзі, адчувалі плынь жыцця і ўплывалі на яе кірунак – мусім быць больш актыўнымі, настойлівымі, самавітымі.

***Генадзь, бізнесмэн***

Я кірую гандлёвай структурай, праз якую штодня праходзяць тысячы чалавек. Усё візуальнае (шыльды, інфармацыя для наведнікаў, абвесткі) і гукавое (радыёпаведамленні, віншаванні кліентаў да святаў) афармленне ад пачатку і да канца мы прынцыпова зрабілі па-беларуску. І паверце, што пакупнікамі гэта ўспрымаецца вельмі прыхільна.

*Да 140-х угодкаў паўстання 1863 года*

Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ

# РЫЦАР СВАБОДЫ

## Трагедыя ў дзвюх дзеях

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

### ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### VI

*Каліноўскі на турэмным ложку ці то спіць, ці то ў забыцці. Дзверы вязніцы адкрываюцца і Паліцмейстар прапускае перад сабою Ядвігу Макрыцкую — немаладую, элегантна апранутую жанчыну з вузельчыкам у руках. Сам спыняецца каля дзвярэй, а Макрыцкая нетаропка падыходзіць да ложка, углядаецца ў твар вязня. Той расплюшчвае вочы, цяжка садзіцца, здзіўлена глядзіць на наведвальніцу.*

**Макрыцкая.** Маё табе шанаванне, сынок...

**Каліноўскі** *(бы ачомаўшыся)*. Даруйце, цётухна Ядзя, я мог уявіць у гэтай мясціне каго хочаце, толькі не вас.

**Макрыцкая.** Выходзіць, ты не рады мне... А я па боскай, міласэрнай справе да цябе, як і да іншых вязняў. Дазволілі добрыя людзі грабеньчык табе перадаць, мыла, пару новай бялізны. *(Аддае клуначак.)*

**Каліноўскі.** Шчыры дзякуй. Відаць, у хуткім часе будзе дарэчы пераапрануцца ў чыстае і белае...

**Макрыцкая** *(разумее падтэкст, але хавае гэта)*. Я і люстэрка прынесла. Як жа маладому без люстэрка.

**Каліноўскі.** Сапраўды. У белае-белае апрануся, прычашуся, у люстэрка агледжуся ды і прадстану прыгажуном перад натоўпам на Лукішках...

**Макрыцкая** *(жагнаецца)*. Хай Бог сцеражэ і збавіць. І люстэрка я табе зусім не дзеля развітання з самім сабою прынесла. *(Да Паліцмейстара.)* Добры чалавек, пакінь ты мяне на хвіліну-другую, ці ж я табе не аддзячу, а справа ў нас сямейная, гаворка інтымная... Самі ж ведаеце, ад нявесты я да жаніха прыйшла...

*Паліцмейстар мнецца, але выходзіць, а Макрыцкая прыкрывае дзверы.*

**Каліноўскі.** Знайшлі добрага чалавека.

**Макрыцкая** *(напаўголаса)*. Усе яны дабрэюць і харашэюць, як добра зафундуеш. Ад Марыські я, сынок. Кланяецца яна табе, цалуе горача, абдымае моцна, зычыць цярпення і надзеі на лепшае.

**Каліноўскі** *(ускоквае з ложка)*. Вы і ў яе былі? З ім? *(Ківае на дзверы.)*

**Макрыцкая.** Была! Гэта ж яна, ластавачка наша, і люстэрка табе прыслала. Каб ты праз сваё ды ў яе акенца зайчыкаў пускаў. То і будзе знак ёй, што ты тут побач і... жывы. Вязніцы вашы праз двор. І спевы касцельныя, як яна кажа, і музыка аргана — на двух падарунак ад Бога. Моліцца яна і за цябе, і за сябе і днём, і ўночы. У хуткім часе ліст табе перадасць. І ты ёй напішы.

**Каліноўскі.** Як яна там, наогул...

**Макрыцкая.** Каб не пацукі ды есці што людскае давалі, то з Божай помаччу як-небудзь перабілася б, а то ж адным селядцом кормяць, а піць і глытка не даюць. *(Прыцішае голас, зірнуўшы на дзверы.)* Дабіваюцца на допытах гіцлі, каб усіх урадоўцаў тваіго жонду, што ў бацькоўскіх пакоях засядалі, паіменна назвала.

**Каліноўскі.** А Юзаф, сёстры, бацькі Марыські — як і дзе?!

**Макрыцкая.** Юзафа да катаргі прысудзілі, бацькоў і сясцёр у Табольскую губерню на пасяленне. Ну, а ты як тут, сынок?..

**Каліноўскі** *(доўга глядзіць у закратаванае акно)*. Зайздрошчу свабодзе нават той вунь, што ходзіць па снезе, вароны, якую бачу са свайго акна...

*Уваходзіць Паліцмейстар.*

**Паліцмейстар.** Свидание окончено!..

*Макрыцкая паспешліва развітваецца. Паліцмейстар паказвае ёй на дзверы, і сам выходзіць следам.*

**Каліноўскі** *(сам сабе)*. Спатканне! Магчымасць перапіскі! І Марыську, і мяне адначасова пазбаўляюць ежы і вады! Нешта тут не так. Ці не патыхае ад інтрыгі правакацыяй?.. Не дай Бог, калі яны ўблытаюць у маю справу і Марыську. *(Здымае чаравік, выцiскае абцасам шыбу ў акне, вымае з кішэні люстэрка, разачаравана.)* Які ж зайчык без сонейка... *(Кладзе люстэрка на падаконнік. Чуе за акном выразны піск сініцы, выварочвае кішэню, збірае крошкі хлеба, высыпае іх птушцы, назірае, захапляецца жывой істотай і не чуе, як у вязніцу ўваходзіць Фавелін — малады прыгожы паручнік у зімовай форме афіцэра Атаманскага казацкага палка, бачыць занятага справаю вязня і спыняецца каля дзвярэй. Яго цікавіць і кранае занятак зняволенага. З суседняга храма ў вязніцу даносіцца ўрачыстае гучанне аргана, касцёльныя спевы. Каліноўскі не адрываецца ад шыбы акна, а казак чакае, слухае, не адзываецца.)*

**Каліноўскі** *(сам сабе, калі музыка і спевы заціхаюць)*. Спевы і музыка аргана — на двух падарунак ад Бога...

**Фавелін.** Казалось бы, у человека уже отняли все, что смогли, заживо хоронят в этих холодных острожских "мурах", вырваться из которых уже нет никакой надежды, а человек все равно борется за жизнь, ищет возможность наполнить содержанием свое существование, хотя бы тонкой нитью связаться с миром, не порывать связи с ним хоть через творение Божье – синицу и небесную музыку органа...

**Каліноўскі.** Сказал философ в чине поручика Атоманского казачьего полка...

**Фавелін.** Какой там философ, я всего лишь врач-резервист означенного вами полка, по совместительству и особой просьбе его высокопревосходительства "ярыги", осуществляющий врачебную опеку над особо опасными государственными преступниками. Рад познакомиться. *(Падае руку.)* Фавелин...

**Каліноўскі** *(паціскаючы руку)*. Калиновский...

**Фавелін.** Искренне рад.

**Каліноўскі.** Позвольте полюбопытствовать — это какое же высокопревосходительство в чине "ярыги" проявило обо мне столь нежную заботу?

**Фавелін.** Ярыга по нашему — это жулик, лжец, крутель, шельма, пропойца, беспутный человек, казнокрад. Российская интеллигенция, разумеется, — подлинная называет его еще "двуликим янусом", "переодетым мясником", "монголом", "калмыком", "рыцарем веревки" и просто вешателем.

**Каліноўскі.** Понял. Спасибо. Судя по вашей откровенности, вы тоже причисляете себя к российской интеллигенции?

**Фавелін.** Естественно — причисляю, но от чувства стыда избавиться не могу.

**Каліноўскі.** Что же так?..

**Фавелін.** Вы же знаете нашу российскую интеллигенцию. Она сентиментальна и плаксива. Она скорбит и хнычет о несчастьях и бедах всего человечества. Она полна решимости объединить и спасти все славянство мира. Она читает "Современник" и "Колокол", боготворит Чернышевского и Добролюбова, молится на Радищева и прочих антикрепостников, в ужасе прижимается к обочине дороги, по которой мчится Русь-тройка с проходимцем на облучке, убивает царей, сдается на милость уцелевшим самодержавцам и бредет пешком в Сибирь-матушку. Но больше всего она скорбит и сочувствует угнетенным народам окраин империи. Это ее вечная и самая глубокая скорбь — вина неискупленная. Но стоит только этим несчастным народам в образе Чечни, Польши, Литвы или Белой Руси, именуемой Северо-Западным краем, встать против российского деспотизма за свою волю, свободу и неподлеглость, как наша сердцебольная, гуманная, сентиментальная, просвещенная и даже революционно-демократическая интеллигенция всех мастей и оттенков объединяется в одном порыве и, превратившись в монстра, в шовинистическом угаре становится идеологической опорой карательных бригад, дивизий и полков. В ее устах восставшие народы не народы, а бандформирования, шайки, террористы, заслуживающие быть стертыми с лица земли, перевешанными, расстреляными, поднятыми на штыки и пики от младенца до старца.

Русская интеллигенция совсем недавно отрукоплескала двадцатилетней победоносной войне на уничтожение кавказских народов. Сегодня она в едином порыве рукоплещет палачам Польши, Белой Руси и Литвы. Виват! Империя зла и насилия спасена! Герцен, на которого молились многие, оказался не прав. Победила доблестная Российская армия, что не пожалела живота своего в борьбе за Веру, Царя и Отечество. Виват!..

Как же мне, русскому интеллигенту, не устыдиться этого позора?! Вы, именуемый в тюремных списках главным распорядителем восстания, хотя бы знаете, какая по численности российско-татарская орда разрушает ваши города и веси, выжигает леса и хлебные поля, пленит и многотысячными загонами уводит в рабство?.. Доподлинно вы знать не можете. Так я вам доложу! Под рукой у ярыги Муравьева 6 армейских бригад, 13 пехотных, кавалерийских, полевых артиллерийских, конно-артиллерийских, казачьих дивизий, 34 особых резервных полка и 24 батальона, в названиях которых в Беларуси представлены почти все города России.

Куда же мне свои глаза девать. И вы правильно делаете, что не доверяете мне. Мы теперь на столетия для здешнего народа ярыги, вешатели, палачи и больше никто!

**Каліноўскі.** Стыдитесь и служите ярыге?..

**Фавелін.** Не обижайте меня, Константин Семенович! Приняв клятву Гиппократа, я служу только людям в несчастьи. Я и вам готов помочь.

**Каліноўскі.** Спасибо. Стоит ли лечить того, кого не сегодня, так завтра повесят или расстреляют.

**Фавелін.** Как раз мне поставлена задача вылечить, поднять вас после истязаний голодом. Вы им нужны как живой архив. Они боятся, что вы все унесете с собой. Мне приказано установить ваш жизненный ресурс, чтобы они могли оставить вам ровно столько сил и здоровья, что бы вы сами дошли до эшафота. Это сказал ярыга. А он слов на ветер не бросает. Лосев со своими опричниками вас будут истязать, я — лечить. Позвольте же мне хоть из уважения и сочувствия к вам и вашей революции помочь вам тем, что в моих силах. Я же имею обязанности не только перед Гиппократом, но и господом Богом. Должна же, черт меня подери, быть в этом гнусном мире хоть какая-то правда и справедливость.

**Каліноўскі.** Наше общение столь мимолетно, а возможная просьба об услуге могла бы быть столь значительна и ответственна, что я, право же, пока должен умолчать о ней.

**Фавелін.** Но почему, если я раскрываю вам свою душу, можно сказать, нараспашку.

**Каліноўскі.** Во-первых, всякая душа — потемки. Во-вторых, друзья не раз говорили мне и не без оснований о том, что я нередко доверял тем, кто предавал меня, как говорится, с потрохами.

**Фавелін.** Не понимаю! Вы же рассчитывали вместе с поляками поднять на борьбу с самодержавием и русский народ, почему же вы не можете поверить, довериться хоть одному русскому?! И не солдату, не казаку, а человеку самой гуманной профессии. В ваших отрядах в качестве командиров десятки русских офицеров. И вы им доверяете! И они вас не предают и не обманывают. Они и сегодня после фактически разгромленного восстания не хуже вашего держатся на допросах. И их, так же как и вас, морят голодом. Кстати, о голоде... Вас уже с сегодняшнего дня начнут кормить, точнее, выводить из голодовки под моим присмотром скорее всего для того, чтобы потом допрашивать с пристрастием или... повесить. Простите. Я об этом так откровенно только потому, что, скорее всего, мне придется констатировать вашу смерть. И я закрою вам глаза. Простите!..

**Каліноўскі.** Даже если вы провокатор, у меня есть к вам одно, так сказать, встречное предложение.

**Фавелін.** Я весь внимание...

**Каліноўскі.** Вы докладываете Лосеву или кто у вас там, что я не только не приму от вас пищу, но и объявлю сухую голодовку и готов держать ее до смерти, если тюремщики не прекратят истязания голодом моей невесты Марии Ямонт.

**Фавелін.** Ямонт?!

**Каліноўскі.** Чтобы убедиться, что мои условия приняты, а Мария Ямонт выведена из принудительного голодания, я требую свидания с ней или в худшем случае собственноручного ее письменного уведомления о прекращении истязаний голодом, переданного через вас.

**Фавелін.** Только и всего?

**Каліноўскі.** Нет, это еще не все! В записке Марии Ямонт последняя фраза должна звучать так: "Я поняла, что полицмейстер не только взяточник, но и провокатор".

**Фавелін.** Я согласен. Но у меня к вам единственный вопрос.

**Каліноўскі.** Пожалуйста.

**Фавелін** *(вельмі ўсхвалявана)*. У Марии Ямонт есть сестра Людвика... Людочка?.. Впрочем, можете и не отвечать. Я сам скажу вам: если Людвика сестра Марии... Марыськи, то это та самая Людвика-Людочка, в которую был безнадежно влюблен русский доктор Фавелин. Но то ли родители, то ли подпольная организация запретили Людвике-Людочке встречаться с офицером вражеской армии. Но это грустное обстоятельство не помешало мне через Людвику передавать медикаменты для ваших подпольных лечебниц. Не думаю, чтобы вы об этом не слышали.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

**Заснавальнік:** ТБМ імя Францішка Скарыны.
**Пасведчанне аб рэгістрацыі:** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
**Адрас рэдакцыі:** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
**Адрас для паштовых адпраўленняў:** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
**E-mail:** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**

**Рэдакцыйная калегія:**
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

**Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі**

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 4. 08. 2003 г.
Наклад 1750 асобнікаў. Замова № 1944.
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 1030 руб., 3 мес.- 3090руб.
**Кошт у розніцу:** 175 руб. (у Менску - 185 руб.)